

**З Новым годам!**

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 снежня 2001 года
№ 52 (349)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Памер ксёндз Чарняўскі

**ВАЛОЖЫН.** У суботу памер ксёндз **Уладзіслаў Чарняўскі**. Амаль 50 гадоў ён аддаў Вішнеўскаму касцёлу святой Марыі.

У. Чарняўскі першы пераклаў Біблію на беларускую мову. Дазвол на гэта ён атрымаў у Рыме у папы рымскага. Развітальную службу Уладзіслаў Чарняўскі правёў 20 студзеня гэтага года. Апошнія тыдні жыцця ён знаходзіўся ў Вішнеўскай бальніцы. Пахаваны на тэрыторыі Вішнеўскага касцёла.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### 100 цацак да Калядаў

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні рэгіянальны клуб грамадскіх аб'яднанняў правёў сваё пасяджэнне. На ім зацвердзілі назву клуба: "Мы – разам".

Клуб трымаў справаздачу аб сваёй рабоце за апошнія 2 месяцы. Галоўная акцыя – "100 цацак да Калядаў". Арганізацыі мнагадзетных бацькоў і таварыства інвалідаў па зроку пашылі і адправілі для дзяцей з нядобранадзейных сем'яў 100 мяккіх цацак.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Святочная сустрэча

**ВАЛОЖЫН.** 25 снежня ў Доме культуры прайшла калядная сустрэча з **Уладзімірам Данчанкам**.

Ён працуе начальнікам клуба ў вайсковай часці. На канцэрце выконваў песні сваіх любімых кампазітараў – Ігара Нікалаева і Ігара Крутога ва ўласнай аранжыроўцы.

Білеты каштавалі 2000 рублёў, і ўсе 230 месцаў былі занятыя.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Чыгуначны білет падаражэў

З 23 снежня падаражэў праезд на чыгуначным транспарце. Цяпер кошт праезду адной зоны складае 80 рублёў. Раней быў 60 рублёў. За поўны білет да Мінска трэба выкласці 720 рублёў (было 540), да Гудагая – 640 рублёў (480).

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Вілейскі «юбілей»

**ВІЛЕЙКА.** 63-гадовы мужчына і яго 58-гадовая жонка сталі ахвярамі, дзявятым і дзясятым чалавекам у раёне, што загінулі сёлета ў агні. Пажар адбыўся ў ноч на 21 снежня ў вёсцы Забор'е. Дом выгараў цалкам. Прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Спагадайце дзеткам

**СМАРГОНЬ.** Кожны жадаючы можа зрабіць навагодні падарунак любому з 12 дзетак-інвалідаў.

У трох магазінах горада па ініцыятыве аддзела сацыяльнай дапамогі райвыканкома вывеслі партрэты 12 дзетак, і ёсць мяшэчкі, куды кожны можа пакласці свой падарунак.

У раёне налічваецца 214 непаўналетніх інвалідаў.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### У ЗАГС – праз трыццаць год

**МЯДЗЕЛ.** Часта ў мясцовым ЗАГСе ушаноўваюць пары, якія пражылі разам пэўны тэрмін. А ў мінулую суботу вырашылі адзначыць свае кадры, які рэгіструюць шлюбы ў вёсках: сакратароў і старшыняў сельвыканкомаў. Некаторыя, як сем'і Мычко, Сініцаў спраўлялі жамчужнае вяселле (30 год сумеснага жыцця), іншыя – 25, 20 год. Для іх спявалі, ладзілі конкурсы, давялося яшчэ раз і шлюб рэгістраваць – праўда, у спецыяльнай кнізе юбіляраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 29 снежня**

**Мінск**
-10 – -8°С (уначы)
-3 – -2°С (удзень)



**Вільня**
-9°С (уначы)
-2°С (удзень)



**Нядзеля, 30 снежня**

**Мінск**
-14 – -12°С (уначы)
-6 – -5°С (удзень)



**Вільня**
-10°С (уначы)
-6°С (удзень)



# Каму елачка – каму сасонка

**Андруша Астаф'еў** і яго бабуля **Ліда Ігнатовіч** з Маладзечна каторы год на навагоднія святы ставяць у сваім доме не елку, як прызвычаіліся беларусы, а сасонку. Такімі я і сустрэў іх на вуліцы Льва Талстога, калі ўнук з бабуляй ішлі з хвойнага базарчыка на Цэнтральнай плошчы.

– А чаму не елка? – запытаўся.

– Наша сям'я доўгі час жыла ў Казахстане, там і прывыклі да навагодняй сасонкі. Елкі ў Казахстане не растуць. І цяпер заўжды ставім дома сасну. Пахне не горш за яліну і стаіць даўжэй.

Упрыгожваць ёлку на Новы год пачалі каля двух тысячагоддзяў таму.

У той час людзі верылі ў магію дрэваў. У гараскопе старажытнага племені кельтаў характар і лёс чалавека залежаў ад яго дрэва, у залежнасці ад даты нараджэння.

Вечназялёная елка займала асаблівае месца сярод іншых дрэў. Яна лічылася дрэвам, якое сімвалізавала само жыццё. Менавіта на самай вялікай у лесе елцы людзі развешвалі розныя падарункі для злых духаў, каб яны зрабіліся дабрэйшыя.

Старажытныя еўрапейцы вешалі на лапкі яблыкі – сімвал урадлівасці, яйкі – сімвал гармоніі і дабрабыту, арэхі. Лічылася, што такім чынам лапкі ёлкі адводзілі злых духаў і нячыстую сілу. Упрыгожвалі ёлку цацкамі.

А паведамілі пра гэта свету старажытныя германскія пастухі. Затым гэтая звычка трапіла ў замкі. І прынцэсы, якія выходзілі замуж за замежных прынцаў, прыносілі традыцыю ў іншыя краіны. Так сталі упрыгожваць ёлкі ў Англіі і Францыі. У Расіі ёлкі публічна ставіліся ў сталіцы з 1852 года. У 1918 годзе ўлады Савецкага Саюза забаранілі ставіць ёлкі на 17 гадоў. Наш рэгіён у той час знаходзіўся ў складзе Польшчы, таму тут ўсё было так, як у цывілізаваных еўрапейцаў. Але з 1940 і да 1947 года 1 студзеня было рабочым днём.

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Андруша Астаф'еў з бабуляй будуць ставіць у сваім доме не елку, як большасць беларусаў, а сасонку. Маладзечна, вуліца Талстога, снежань 2001 года.**

# Чым год запомніўся?

**Засталося тры дні да заканчэння першага года трэцяга тысячагоддзя. Чым ён запамінальны для нас? Нагадаем пра некаторыя сёлетнія публікацыі.**

■ **ДАЎГАБУД ГОДА**

### Что нам стоит дом построить?

МАЛАДЗЕЧНА. Амаль два тыдні ідуць работы на мясцовым даўгабудзе – будучым Доме культуры. Ільвіную частку сродкаў на заканчэнне будоўлі (называецца лічба 5 мільярдаў рублёў) выдаткуюць гарадскі і абласны бюджэты. Тэрмін заканчэння будаўніцтва – апошнія месяцы 2001 года.

**"РГ" №5, 2 лютага**

Сёлета будоўля Дома культуры перыядычна затухае.

Канчатковы тэрмін у чарговы раз перанеслі – на канец 2002 года. Графік фінансавання аказаўся сарваны.

■ **ФЕСТЫВАЛЬ ГОДА**

### Маладзечна-2001

МАЛАДЗЕЧНА. Адноўлены фестываль беларускай песні і паэзіі арганізатары наперад вызначылі як прынцыпова адрозны ад мінулых.

Упершыню не праводзіўся конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Гледачам толькі прадставілі 25 новых імёнаў у канцэрце "Зорнае купалле – з новымі імёнамі ў XXI стагоддзе!". Галоўны прыз – ключы ад новенькага аўтамабіля – старшыня Маладзечанскага гарвыканкома **Мікалай Чурсін** перадаў **Дзмітрыю Качароўскаму**. "Калегі" шчыра павіншавалі спевака з цалкам заслужанай перамогай.

**"РГ" №24, 15 чэрвеня**

Маладзечанскі фестываль для Дзмітрыя Качароўскага стаў добрай стартавай пляцоўкай. Пасля гэтага ён атрымаў Гран-пры на міжнародным фестывалі "Славянскі базар" у Віцебску.

■ КОНКУРСЫ

# Залатое пяро

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу прайшло ўзнагароджанне пераможцаў першага гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро". Яго арганізаваў Цэнтр пазашкольнай работы сумесна з "Рэгіянальнай газетай" і "Маладзечанскай газетай".**

Бралі ўдзел у конкурсе школьнікі 5-11 класаў. Былі дзве катэгорыі – 5-7 і 8-11 класы. Журы, у складзе якога быў в.а. намесніка галоўнага рэдактара "Рэгіянальнай газеты" **Юрый Карпіцкі**, разгледзела 33 работы.

Гран-пры – "Залатое пяро" – атрымалі пяцікласніца СШ №5 **Аксана Лісоўская** і адзінаццацікласніца СШ №11 **Кацярына Шніп**. Прызёрамі сталі **Катарына Падворская** (СШ №9), **Ганна Балкоўская** (СШ №1), **Эльміра Абасава** (СШ №11) і **Насця Бажко** (СШ №6).

Спецыяльныя прызы – падпіскі на нашу газету – атрымалі **Маргарыта Федаравічутэ** і **Насця Рамейка**.

**Сямён БОНДАР.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Уладальніца "Залатога пяра-2001" Аксана Лісоўская.

■ ШАНЦАВАННЕ ГОДА

## Пэтэвэшнікі засталіся жывыя

МАЛАДЗЕЧНА. 15 сакавіка ў нежылым будынку былога інтэрната ПТВ-21 абваліліся са столі 2 пліты. У той момант туды завіталі на перакур навучэнцы першага курса. На шчасце, нікога не забіла. Два навучэнцы абышліся лёгкімі ўдарамі. На наступны дзень яны былі на занятках.

Гэты будынак "без вокнаў і дзвярэй" пустуе восьмы год. На наступны дзень пасля аварыі разбурылі адну са сцен. Яна пасля таго, як абваліліся пліты, літаральна хадзіла хадуном і магла ў любы момант разваліцца.

**"РГ" №12, 23 сакавіка**

■ ДЗЕНЬ ГОДА

## Адкрытыя помнік Агінскаму і прыпынак «Фестывальны»

МАЛАДЗЕЧНА. У адзін дзень прайшло адкрыццё адразу двух аб'ектаў: помніка грамадска-палітычнаму дзеячу Вялікага княства Літоўскага Міхалу Клеафасу Агінскаму, чыгуначнага прыпынку "Фестывальны".

**"РГ" №36, 7 верасня**

■ ПАРТРЭТ

## Рэкардсменка «Рэгіянальнай газеты»

**Калі на Новы год у газеце няма хаця б двух дзесяткаў віншаванак ад Рэгіны, то для нас гэта не Новы год. Рэгіна Ліпцюк для рэдакцыі стала легендарным чалавекам – яна абсалютны рэкардсмен па колькасці віншаванак.**

Гэта і стала прычынай нашай размовы з Рэгінай.

– Я гэтым жыву, – гаворыць Рэгіна. Людзям будзе прыемна прачытаць пра сябе ў газеце. Многія дзякуюць, калі бачаць сваё прозвішча.

Хаця саму Рэгіну ў нашай газеце яшчэ не віншавалі.

– Не ведаю, чаму. Магчыма, для-гэтага ў людзей няма часу.

Захапленне віншаванкамі да Рэгіны прыйшло ў сталым узросце. Можа таму, што жыццё не склалася так, як хацелася б.

Цяпер у жыцці Рэгіны не самая светлая паласа – яна беспрацоўная.

– Я не прападу. Цяпер вучуся на курсах краўчых у вучэбным камбінаце "Надзея". Хачу паспрабаваць сябе ў гэтым бізнесе. Пасля заканчэння курсаў хацелася б асвоіць прафесію дызайнера, прасіць мільянераў не збіраюся. Тым больш, трэба дапамагаць маме. Разам з ёй жывуць самыя блізкія мне людзі – сёстры і хросная дачка і адначасова пляменніца **Катажынка**.

У мяне шмат сяброў. З усіх вылучу **Лену Лях**, яна была маім начальнікам на "Спадарожніку". Гэтая жанчына для мне як бог.

**Даведка «РГ»**



**Рэгіна Ліпцюк. Нарадзілася 30 чэрвеня 1962 года ў Маладзечне. У 1981 годзе скончыла СШ№9. Працавала на фабрыцы музычных інструментаў, мебельвай фабрыцы, «Спадарожніку».**

Калі верыць гараскопам, наступны год будзе ўдалы ўсіх. На гэта спадзяецца і Рэгіна:

– Мне ў гараскопе напісана на будучы год прасоўванне па службе. Мая запаветная мара – знайсці работу і вычуцца далей. Каб ні ад каго не залежаць.

**Ад рэдакцыі.** "Рэгіянальная газета" віншуе Рэгіну Ліпцюк з надыходзячым Новым годам і жадае шчасця, здароўя і здзяйснення усіх мараў!

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Надзею падарыў Іаан

Жанчына, відаць, галасавала доўга і беспаспяхова, бо калі наша машына запішчала тармазамі і спынілася, то яна не паверыла, крыху патапталася на месцы, потым паволі пашыбавала да прыпынку і выйшла ўжо з дзіцем год трох-чатырох на руках.

– Можа, да Кармы падкінеце? – з надзеяй паглядзела на вадзіцеля і пачала ўладкоўвацца на заднім сядзенні. Хвароба яе малой кідалася ў вочы адразу: бязладныя рухі, незразумелыя словы і нейкая не па-дзіцячым сур'ёзная цярплівасць.

І пад шоргат колаў жанчына пачала расказваць сваю сумную гісторыю.

... Кармянская царква і белыя сцены новага кляштара вынырнулі неяк раптоўна з-за сакавітай зялянiны шматгадовых ліпаў, і наша спадарожніца спынілася на паўслове і мітуслівa пачала збіраць Лену.

У царкве ўжо былі людзі, хаця служба і не пачыналася. Ля ракі з мошчамі святога айца Іаана былі разасланы коўдры, дзе прачыналіся хворыя дзеці, дарослыя, у асноўным, з паралізаванымі нагамі і сляпыя.

На твары нашай знаёмай прабег цень сумнення: а можа, і ёй трэба было прыехаць з малой з вечара, каб пераначаваць вось тут, з такімі ж няшчаснымі, як і яе дачка. Але разважаць часу асабліва не было, і маці ўзяла малую на рукі і пайшла да манашак. Праз нейкі час яна працiснулася да бацюшкі, але ён толькі і паспеў іх перахрысціць – час прыспешваў пачынаць нядзельную літургію.

Ужо па інерцыі, не ведаючы, да каго звяртацца за парадай, паставіла жанчына свечкі. Ля іконаў, пад раку з мошчамі, паклала адзенне дачкі і ля акенца прыладзіла бутэльку з вадой. Людзей прыбывала і прыбывала, прайсці да выхаду ўжо было немагчыма, і ўсе імкнуліся быць бліжэй да ракі з мошчамі. І да жанчыны раптам дайшло: маліцца трэба самому Іаану Кармянскаму, яны ж і прыехалі да яго па дапамогу і надзею.

Яна стала на калені, узяла малую на рукі і пачала расказваць бацюшку Іаану (а раку з мошчамі ўжо адчыніліі) пра сваё гора. Жанчына не ўслухоўвалася ў агульную службу, хрысцілася разам з іншымі, хутчэй, аўтаматычна, чым асэнсавана, і ўсё імкнулася не прапусціць нічога з таго, што хацела сказаць настаяцелю Стэфану.

Яна шэптам расказвала пра тое, як яе Леначка ў год падхапіла нейкую незразумелую інфекцыю і пасля доўгіх месяцаў лячэння не толькі не ўстала на ногі, але і катастрафічна пачала губляць зрок, як яны аб'ехалі праўдамі-няпраўдамі розных прафесараў. Тыя не адмаўляліся ад вясковых гасцінцаў, але дыягназы іх часам так розніліся, што маці зразумела: як лячыць дзіця, ніхто не ведае, а проста праводзяць эксперыменты. Як знік-растварыўся ў ранішнім тумане іх бацька – вытрымаць такое дзіця ў сям'і не кожнаму пад сілу. Як цяжка працаваць даяркай за капейкі і як страшна пакідаць адну ў хаце малую – вунь колькі цяпер бадзяецца ў чарнобыльскай зоне ўсялякіх бамжоў і прайдзісветаў. Яна нікога не абвінавачвала: ні ўлады, ні мужа, ні радню, ні дактароў (як бывае, звычайна, у падобных выпадках), яна проста адкрывала сваю душу памерламу старцу. Прасіла, каб дапамог ёй сваімі малітвамі падняць на ногі і дзвюх старэйшых дачок, якія так мала бачаць мацырынскай ласкі, каб вярнуўся ў сям'ю муж, каб не захварэць самой, бо тады, напэўна, разваліцца ўсё... Яна шаптала і шаптала словы, а з вачэй ліліся слёзы, і нават малая не капрызіла.

Гэтак жа доўга яна потым гаварыла на споведзі і з надзеяй глядзела на бацюшку: ці даруе ёй Бог грахі, каб хутчэй падняць дачушку на ногі. Пасля літургіі праводзілася сабораванне, і ўсё з той жа надзеяй і роспачу адначасова яна падставіла галаву і рукі Лены пад руку бацюшкі з ялейным пэндзлікам.

Мы прапанавалі жанчыне падвезці яе дамоў (усё адно ж у адзін бок), і яна адразу пагадзілася, але вырашыла яшчэ раз падысці да мошчаў айца Іаана, каб развітацца.

Яна выйшла з царквы – і мы не пазналі яе: жанчына свяцілася такой чыстай радасцю, нібы хацела, каб усім стала гэтак жа добра і светла.

– Ведаеце, – расказвала яна ў машыне, – падышла я да ракі і пакланілася, а бацюшка Іаан як быццам мне з іконы ледзь-ледзь галавой кіўнуў. І так добра стала мне ў тую хвіліну – вам не перадаць! Цяпер мая Леначка пойдзе на папраўку, павінна ж пайсці! Вось і алею з лампадкі мне далі, і вадзічка ёсць, і кніжку пра Іаана купіла з малітвамі. Які ж дзянёк сёння добры!

І з яе вачэй зноў закапалі слёзы...

Шчыра кажучы, я не ведаю, кіўнуў ёй Іаан Кармянскі з іконы ці не, ці гэта проста ёй падалося, але ж не гэта галоўнае. Яна паехала дамоў з верай у выздараўленне дзіцяці, з верай, што яе малітву праведнік Іаан данясе да Бога. І я чамусьці веру, што Ленка яе на ногі падымецца.

Падымецца абавязкова, каб ужо самой дабрацца ў кармянскую царкву і пакланіцца мошчам беларускага Святога – праведніка Іаана Кармянскага.

**Кацярына ШНІП, пераможца гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро".**

■ ПАРТРЭТ

# Вядомы на Нарачы чалавек

**МЯДЗЕЛ. У санаторыі "Белая Русь" працуе ўрачом-псіхатэрапеўтам вядомы ва ўсіх нарачанскіх здраўніцах Ібрагім Крыніцкі.**

Вядомы тым, што мае запісы пра прадзедаў і іншых родзічаў да дзесятага калена, якія складзеныя на беларускай мове. Беларускі татарын Крыніцкі звязаў свой лёс з беларускай **Тарэсай** – дзяўчынай з Астравеччыны. Знаёмства было даволі драматычнае: бацька Ібрагіма Крыніцкага цяжка хварэў – рак сляпой кішкі. Сам Ібрагім працаваў у той час у Варкуце. Ён адвёз бацьку лячыцца ў Гродна, у бальніцу. А там медсястрой працавала Тарэса. Бацьку не выратавалі, але знайшоў жонку – хутка будзе трыццацігоддзе іх сумеснага жыцця.

Гавораць, што Ібрагім Крыніцкі – добры доктар. У яго ёсць шмат запісаў-падзяк ад пацыентаў. Хаця медыцынскую адукацыю было атрымаць не так лёгка – ён паступіў у медінстытут пасля службы і працы ў арміі. Гэта праз 8 гадоў пасля заканчэння школы. У медыцыну пайшоў пасля таго, як за 15 хвілін ад няправільнага ўкола памерла маці. Вырашыў – трэба адпрацоўваць памылку таго ўрача. Дарэчы, дачка І. Крыніцкага пайшла па бацькавым шляху – стала ўрачом.

Сёлета ў нашага героя вялікая радасць – сын здолеў паступіць у БДУ на факультэт міжнароднай журналістыкі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Шахматы – даўняе хобі ўрача-псіхатэрапеўта Ібрагіма Крыніцкага. Сёлета ён стаў чэмпіёнам курортнага пасёлка Нарач і заняў трэцяе месца ў Мядзельскім раёне.**

■ ЛАТАРЭІ

## Выйгрышны валожынскі поліс

**ВАЛОЖЫН. У розыгрышы "Выйгрышны поліс", які быў прысвечаны юбілею Белдзяржстраха, галоўны прыз – каляровы тэлевізар "Гарызонт" – атрымаў Іван Абрамчык з вёскі Новы Двор.**

У латарэі ўдзельнічала 380 тысяч страхавых полісаў. Акрамя абавязковага страхавання, гэтая сям'я добраахвотна страхуе карову і хатнія пабудовы. Пасля таго, як атрымалі тэлевізар, Іван Абрамчык сказаў, што застрахуе яшчэ і каня.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ВІЗІТ ГОДА

## Папа рымскі прыехаў у Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА. 27 жніўня ў горад прыехала калекцыя з пецярбургскага музея васкавых фігур. Упершыню ў Беларусі. Адной з прычын прыезду менавіта ў Маладзечна было тое, што адзін з членаў акцыянернага таварыства, якое валодае музеем, родам з Маладзечна.

**"РГ" №35, 31 жніўня**

■ ВЫБАРЫ ГОДА

## Выбралі прэзідэнта

Наступныя 5 год прэзідэнтам краіны будзе Аляксандр Лукашэнка. Згодна з афіцыйнай статыстыкай, якую мы атрымалі ў 6 з 8 выбарчых акруг рэгіёна, больш за ўсіх падтрымалі прэзідэнта ў Астравецкім раёне – 85,3% тых, што прагаласавалі. Там была і найвышэйшая актыўнасць: амаль 90% выбаршчыкаў прыйшлі на выбары. Найменшую падтрымку прэзідэнт атрымаў ад маладзечанцаў – 62,5%.

**"РГ" №37, 14 верасня**

■ СЮРПРЫЗ ГОДА

## Рабаўнікі спаць спакойна не будуць

МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з 11 на 12 кастрычніка ў памяшканні рэдакцыі нашай газеты невядомыя выламалі краты і скралі амаль усё рэдакцыйнае абсталяванне.

**"РГ" №42, 19 кастрычніка**

Такога ў гісторыі рэдакцыі яшчэ не было. Але мы перажылі і крадзеж, і рамонт, які пачаўся потым. Графік выхаду нашай газеты не змяніўся. Дзякуй усім, хто падтрымаў нас у не самыя лепшыя часы.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**У гэтую пару людзі думаюць больш пра святы, чым пра работу. Маладзечна, 22 снежня, рэчавы рынак. Купляюць навагоднія маскі.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Менш працаваць, больш жыць

Прагноз развіцця падзей на наступны год вызначаецца не толькі дадзенымі па эканоміцы, фінансам, бюджэту, гандлёвым балансе Беларусі. На нашае будучае ўплываюць і агульнасусветныя тэндэнцыі, уплыў якіх яшчэ больш узмацніецца пасля нядаўніх тэрактаў у Амерыцы. Сярод гэтых тэндэнцый аналітыкі вызначаюць наступныя: усё большая глабалізацыя эканомікі, фінансаў і гандлю вядзе да узмацнення разрыву паміж багатымі і беднымі краінамі. Былая рыса падзелу Усход–Захад вызначалася, у асноўным, палітычнымі матывамі і падзяляла капіталістычныя заходнія краіны і так званыя краіны ўсходняй дэмакратыі і развіцця сацыялізму. Вектар адрозненняў пасля рыўка Кітая і усходнееўрапейскіх краін да свету капітала і маруднага таптання на месцы краін СНД перайшоў у іншую плоскасць раздзелу – Поўнач і Поўдзень. Куды будзе імкнуцца Беларусь, вызначаем мы самі.

Другая тэндэнцыя агульнасусветнага ўзроўню – біялагічная. Усё больш увагі будзе надавацца экалогіі, медыцыне і здароўю чалавека. Калі мінулае стагоддзе было стагоддзем фізікі і матэматыкі, якія дазволілі стварыць атамныя і вадародныя бомбы, камп'ютэры і інтэрнэт, то гэтае стагоддзе стане стагоддзем біялогіі. Менавіта тут чакаюцца асноўныя адкрыцці і прарывы ў навуцы, менавіта сюды накіруюць асноўныя асігнаванні. Беларусы не павінныя застацца ўбаку.

Трэцяя агульнасусветная тэндэнцыя толькі набірае моц. Гэта прыярытэт індывідуума. Калі раней былі нейкія класы ці слаі насельніцтва, то цяпер цікавасць павінен уяўляць кожны канкрэтны чалавек – ён, а не нейкая абстрактная супольнасць людзей. Яго правы, яго свабоды, яго надзеі і чаканні робяцца галоўнымі. Увесь свет ідзе да таго, каб працаваць менш, каб больш свабоднага часу заставалася для адпачынку і вольнага часу, каб проста больш жыць. Вераснёўскія падзеі ў Амерыцы толькі ўзмацнілі гэтую тэндэнцыю – лепш жыць і траціць сёння, не адкладаючы на заўтрашні дзень. Дэвіз года для кожнага з нас просты: менш працаваць, больш жыць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Час павялічваць камунальныя паслугі?

У беларускай камунальнай гаспадарцы склалася сітуацыя, калі толькі 20% яе паслуг аплачвае насельніцтва, а 50% выдаткоўваецца з бюджэту і 30% – з боку прадпрыемстваў.

У выніку, кампенсуючы кошт камунальных паслуг, ні дзяржава, ні прадпрыемствы не могуць павялічыць памер заробатнай платы сваім работнікам.

Згодна з нядаўняй пастановай Савета міністраў, у будучым годзе мы будзем плаціць 40%, 2003 годзе – 60%, а ў 2004 годзе – 80% камунальных паслуг. У летні перыяд абслугоўванне аднапакаёвай, двухпакаёвай і трохпакаёвай кватэры у будучым годзе будзе каштаваць адпаведна 20, 30 і 40 долараў. У ацяпляльны час кошт узрасце да 30, 45 і 60 умоўных адзінак.

У 2004 годзе, калі рост тарыфаў дасягне піку, гэтыя лічбы павялічацца роўна ў 2 разы. Хаця ўрад мяркуе ў выніку зняцця з прадпрыемстваў цяжару перакрыжаванага субсідзіравання, павялічыць да гэтага часу нашу сярэднюю зарплату да 250 долараў. Аднак у мяне існуе пэўны скептыцызм.

Па-першае, нават цяперашні стодоларавы эквівалент зарплаты не пад сілу многім нашым прадпрыемствам. У выніку зменшацца грашовы і павялічыцца бартэрны ўзаемаразлік. Пачала штомесячна павялічвацца запазычанасць па зарплаце, якая выплачваецца, пераважна, незваротнымі крэдытамі моцна абяскроўленых у апошні час камерцыйных банкаў. Ды і ўнутраныя расійскія цэны на электраэнергію, газ, чыгуначныя перавозкі, якія напрамую звязаныя з беларускімі, у 2002 годзе ўзрастуць, у сярэднім, на 35%. І гэта не спрые росту зарплаты.

Па-другое, існуе залежнасць беларускага рубля ад расійскай валюты, трываласць якой, у асноўным, залежыць ад сусветных цэнаў на нафту. Дзе гарантыя таго, што ў выпадку падзення цэнаў на нафту, не адбудзецца чарговы дэфолт і нашы рэальныя зарплаты не абясцэняцца ў 2-3 разы?

Па-трэцяе, прыклад суседняй Украіны, дзе, як і ў нас, на фоне сур'ёзных структурных эканамічных пераўтварэнняў, што не адбыліся,у 1995 годзе прыкладна ў 10 разоў павялічыўся кошт камунальных паслуг.

Вынік – велізарная запазычанасць насельніцтва, частка якога з-за недахопу сродкаў увогуле не плаціць за камунальныя паслугі. Цяпер насельніцтва там павінна аплачваць 80% ад кошту камунальных паслуг.

**Алесь ЦАДКО.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Аўстралійскія гірлянды

**ВАЛОЖЫН. Упершыню валожынская школа-інтэрнат атрымала гуманітарную дапамогу з іншага кантынента – Аўстраліі.**

Сяброўства пачалося летам, калі выхаванцы школы-інтэрната адпачывалі ў летніку "Дарожнік". Там былі і аўстралійцы. Потым дэлегацыя з зялёнага кантынента наведала школу-інтэрнат. Амаль тыдзень былі яны ў Валожыне.

Аўстралійскія ёлачныя цацкі меншыя за нашыя. Іх раздалі па класах, дзе будуць стаяць маленькія ёлачкі. Затое гірляндам па прыгажосці не будзе роўных у горадзе.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 20 снежня | 27 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1571,00 руб. | 1580,00 руб. |
| Нямецкая марка | 723,28 руб. | 711,47 руб. |
| Літ | 392,75 руб. | 394,85 руб. |
| Расійскі рубель | 51,89 руб. | 52,31 руб. |
| Злоты | 393,71 руб. | 395,59 руб. |
| ЕЎРА | 1414,61 руб. | 1391,51 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1570 – 1590 руб. | 1580 – 1600 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.12 | 26.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7600 | 8500 |
| Сасіскі, 1 кг | 3050 | 3050 |
| Селядзец, 1 кг | 1980 | 1980 |
| Рыс, 1 кг | 560 | 520 |
| Грэчка, 1 кг | 440 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1350 | 1350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1050 | 1150 |
| Маянэз, 200 г | 310 | 310 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 560 | 570 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 500 |
| Капуста, 1 кг | 380 | 320 |
| Лімоны, 1 кг | 1550 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | 1400 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2900 | 2900 |
| Тварог, 1 кг | 1200 | 1500 |
| Малако, 1,5 л | 600 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2400 |
| Морква, 1 кг | 600 | 600 |
| Яблыкі, 1 кг | 700 | 700 |

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі аддзел статыстыкі паведамляе пра змяненне цэнаў на некаторыя харчовыя тавары і паслугі для маладзечанцаў за гэты год.**

| | Студзень 2001 года, руб. | Снежань 2001 года, руб. | % росту цэнаў |
|---|---|---|---|
| 1 дзета-дзень у дзіцячым садку | 165,6 | 501,6 | 302,9 |
| Кошт праезду 1 зоны на чыгунцы | 40 | 80 | 200,0 |
| Тушка куранят, 1 кг | 1392 | 2768 | 198,8 |
| Торфабрыкет, 1 тона | 7000 | 13500 | 192,9 |
| Анальгін, 10 таблетак | 70 | 116 | 165,7 |
| Яйкі курыныя, 10 штук | 698 | 1101 | 157,7 |
| Мука в/с, 1 кг | 376 | 581 | 154,5 |
| Шампанскае, 1 літр | 3413 | 5047 | 147,9 |
| Рамонт штаноў | 515 | 720 | 139,8 |
| Міжгародні званок па вобласці, 1 хвіл. | 6,00 | 9,5 | 158,3 |
| Малако, 1 літр | 256 | 348 | 135,9 |
| Цукар, 1 кг | 575 | 781 | 135,8 |
| Гарэлка "Аквадзіў", 1 літр | 3028 | 4088 | 135,0 |
| Паштовая марка па Беларусі | 41 | 55 | 134,1 |
| Паставіць поліурэтанавыя набойкі на абутак | 999 | 2666 | 266,9 |
| Аўтобусная паездка па горадзе | 60 | 80 | 133,3 |
| Плата за 1 кВт/гадзіну | 14,40 | 19,20 | 133,3 |
| Свініна, 1 кг | 2400 | 2800 | 116,7 |
| Мыццё бялізны, 1 кг | 293 | 342 | 116,7 |
| Хімчыстка штаноў | 1332 | 3300 | 247,7 |
| Сярэдняя зарплата па горадзе | 79960 | 144832 (за лістапад) | 181,1 |

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Чарговае «золата» Ілава

**МЯДЗЕЛ. Тры віды вінаў прадставіла на 5 міжнародным прафесійным конкурсе вінаў у Маскве унітарнае прадпрыемства «Ілаўскае».**

І атрымала за іх тры медалі, два з іх – залатыя. «Золатам» адзначылі «Ілаўскае святочнае» і «На рубяжы стагоддзяў-2001». Гэтыя віны робіцца на аснове соку з буякоў. Выпускаць іх пачалі нядаўна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Мядзельскія бровары ў цане

МЯДЗЕЛ. Пастаянна мясцовая міліцыя праводзіць рэйды па выяўленні ў лесе міні-заводаў па вытворчасці самагону. Падчас апошняга знайшлі два такія ля вёскі Пузыры і Маставікі. Засталі на месцы і абслугоўваючы персанал – у асноўным, беспрацоўных. На адзін з бровараў нават з Віцебскай вобласці прыязджалі самагон гнаць. Здавалі яго і ў арэнду. Расцэнкі на гэтую паслугу былі немалыя: палову атрыманага самагону мусілі аддаць уладарам міні-завода.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ РАЗВІТАЛЬНАЕ СЛОВА

# Аляксей Фяцісаў

20 снежня пайшоў з жыцця ветэран апошняй вайны, сябар нашай газеты фотамастак **Аляксей Кузьміч Фяцісаў**. На восьмым дзесятку год ён яшчэ мог заразіць маладых фатографаў сваёй апантанасцю і адданасцю любімай справе. Яго вучні – фатографы і фотакарэспандэнты – працуюць па усёй Беларусі. У свой час Аляксей Кузьміч вёў абласную школу фотамастацтва, хаця сам упершыню па-сапраўдным пачаў займацца фатаграфічнай справай у сталым узросце. Але паспеў дасягнуць у фатаграфіі такога узроўню, які дазволіў яму быць цэнтрам фотамастацкага жыцця ў Маладзечне і наваколлі. У апошні час Аляксей Кузьміч працаваў і ў каляровай фатаграфіі, але па-ранейшым аддаваў перавагу чорна-беламу здымку, мяркуючы, што у нашым жыцці дастаткова адценняў, каб яго зразумець і без лішніх фарбаў. Яго здымкі неаднойчы адкрывалі нашыя газетныя старонкі. Фотаімгненне нешта значыць, калі чалавек, які націскае кнопку затвора, бачыць у відашукальніку сапраўднае жыццё. Бачыць і разумее. Аляксей Фяцісаў умеў бачыць і разумець жыццё і вучыў гэтаму іншых.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**



Аляксей Фяцісаў.









З работ Аляксей Фяцісава.

# Бывайце, дарагі наш айцец Уладзіслаў...

Здарылася непапраўнае. 22 снежня 2001 года на 86-м годзе жыцця завяршыў свой зямны шлях старэйшы беларускі каталіцкі святар, дастойны айцец Уладзіслаў Чарняўскі. Не стала пастыра, які ўсё сваё свядомае жыццё шчыра і аддана праслужыў Богу і Беларусі. Пастыра, які цэлае пакаленне беларусаў далучаў да несмяротнага Божага вучэння. Не стала чалавека, які асабістым прыкладам вучыў людзей любіць бліжняга свайго рабіць дабро і супраціўляцца ўсеабдымнаму злу. Не стала мудрага дарадцы і святлейшага са светлых людзей. Не стала святара рэдкай спагады і дабрыні.



А нарадзіўся айцец Уладзіслаў Чарняўскі 14 студзеня 1916 года ў засценку Амбружына каля Гальшан у вялікай і беднай сялянскай сям'і. Вучыўся ў Вішнеўскай і Крэўскай школах, Ашмянскай польскай гімназіі. У 1934 стаў вучнем гімназіі імя Стэфана Баторыя пры Друйскім кляштары, якую закончыў у 1937 годзе. А ў 1938 яшчэ ў Друі паступіў у навіцыят ордэна марыянаў. Затым была вучоба ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, якую паспяхова скончыў у 1945 годзе. Працаваў пробашчам касцёла святога Мікалая ў Вільні, потым у Укмерге, Гегужыне, Ёрнішках, Варэнах, Эйшышках на Літве. А з 1954 – у мястэчку Вішнева, што на Валожыншчыне...

Усе, каму пашанцавала ведаць гэтага незвычайнага чалавека, не пераставалі здзіўляцца яго сціпласці, дабрыні і чалавечнасці. Ён заўсёды стараўся прыйсці на дапамогу, падзяліцца апошнім, падтрымаць духоўна і нават матэрыяльна ў цяжкую для чалавека хвіліну. Гэта быў сапраўдны пастыр, у якога слова ніколі не разыходзілася са справай. Мяккі і вельмі добры ў адносінах з людзьмі, ён быў апантана стойкі ў сваіх перакананнях. Заўсёды лічыў, што размаўляць з Богам трэба толькі на роднай мове. І таму словы: "І слаўце імя Маё мовай сваёй" былі для яго не пустым гукам, а сэнсам жыцця.

Давялося за такія погляды зведаць шмат непрыемнасцяў і перашкод, але ніколі ні пры якіх абставінах ён не зламаўся, не адступіўся ад сваіх перакананняў. Да апошніх дзён свайго жыцця ўдасканальваў тэкст перакладзенай ім на беларускую мову Бібліі, іншай рэлігійнай літаратуры. Застаўся чалавекам з вялікай літары. Такім і застанецца ў нашай памяці і нашых сэрцах. Бывайце, дарагі наш Пастыр і Настаўнік, і няхай будзе Вам пухам наша родная беларуская зямля!

**Краязнаўца Міхась Казлоўскі,**
**паэт Віктар Шніп,**
**гісторык Эдвард Зайкоўскі,**
**мастак Генадзь Селядзец,**
**мастак Сяргей Шусціцкі,**
**грамадскі дзеяч Алесь Капуцкі,**
**паэт Сяргей Панізнік,**
**паэт Мар'ян Дукса,**
**мастак Васіль Лазоўскі.**

# Чароўная магія Калядаў

Зімовы сонцаварот – самы казачны час года. Нездарма яго яшчэ задоўга да хрысціянства лічылі адным з галоўных святаў года. У гэты час па вуліцах ходзяць Дзед Мароз са Снягуркаю, над дахамі нячутна пралятаюць то злая Снежная Каралева, то добрая фея Бефана. Па заснежаных палях ходзіць адзінокая Мора, недзе ў далёкіх скандынаўскіх гарах спіць велікан Імір, а спадарыня Завіруха – фрау Холе – усё трасе ў нябёсах сваю чароўную пярыну.

Каляды заўсёды карысталіся папулярнасцю ў нашых продкаў. А саму назву "Каляды" можна супаставіць з рымскімі Kalendae і санскрыцкім kala. Такія святкаванні існавалі ў Рымскай імперыі і Егіпце, у грэкаў і індыйцаў.

Дакладна вядома, што навагоднія маскарады жрацоў праводзіліся ў Мемфісе і Фівах. Пазней замест жрацоў сталі пераапранацца дзеці. Невялікімі гуртамі яны хадзілі па дамах і жадалі гаспадарам добрага здароўя ды вялікага шчасця і, вядома, атрымлівалі за сваю працу пачастунак. Не прыняць у хаце "калядоўшчыкаў" лічылася вялікім грахом.

У калядную нядзелю, што ішла за Раством, праваслаўным у старадаўняй Русі дазвалялася амаль усё: піць нямерана, біцца, гарлапаніць песні на вуліцы, цалавацца і хапаць дзевак за бакі. Людзі хадзілі адзін да аднаго ў госці, каталіся з горак, калядавалі і варажылі.

Варажба – гэта неад'емная частка Калядаў. Гэтая з'ява настолькі старажытная, што згадкі пра яе можна сустрэць у разнастайных пісьмовых помніках Егіпта, Грэцыі і іншых краін свету, а таксама ў Бібліі. Была пашыраная варажба і сярод славян: ёю займаліся пераважна жрацы, варажбіты, ведзьмары і чараўнікі.

У Старажытнай Русі варажба была асабліва распаўсюджаная падчас церамнога затворніцтва. Доўгімі зімовымі вечарамі пакаёўкі, баярыні і баярышні, бавячы час, імкнуліся пранікнуць у таямніцы лёсу і разгадаць сваю будучыню.

Звычайна праваслаўныя варажбе прысвячаюць час з Раства (7 студзеня) да Хрышчэння (19 студзеня). А ў каталіцкім свеце, дзе Раство святкуюць 25 снежня, калядныя святкаванні доўжацца з 25 снежня па 5 студзеня. Спакон веку лічылася, што ў святочны час уся нячыстая сіла адступае перад вялікай радасцю Раства, і нішто не перашкаджае зазірнуць у твар будучыні.

Варажылі на розных прадметах, але мэта заўсёды была адна – прадказаць лёс. І даўней, і сёння варожаць, як правіла, маладыя незамужнія дзяўчаты, але занятак гэты падыходзіць для любога ўзросту.

Ключы, воск, брэх сабак, пакінутая на ганку рукавіца, падслуханы ўрывак фразы, след пад акном – усё гэта выкарыстоўвалася і выкарыстоўваецца для таго, каб убачыць наканаванне лёсу. Зразумела, час накладае свой адбітак на спосабы прадказання, таму прапануем найбольш зручныя на сёння спосабы варажбы, якімі можна карыстацца як у горадзе, так і ў вёсцы.

Усе віды варажбы можна падзяліць на тры катэгорыі. Першая — *вячэрняя* варажба. Яна пачынаецца з таго часу, калі ў дамах запальваюць святло. Яна можа быць, напрыклад, такая. Дзяўчына выходзіць на вуліцу і пытае ў першага сустрэчнага яго імя. Гэтае ж імя, як мяркуецца, будзе насіць і яе нарачоны. Такая варажба звычайна адбываецца пад стары Новы год і падрабязна апісаная ў рамане А. Пушкіна "Яўген Анегін".

У народзе вялікім даверам карысталася варажба на кнізе. Звычайна гэта была Біблія ці якое-небудзь рэлігійнае выданне. Патрэбна толькі адгарнуць кнігу на любой старонцы і прачытаць некалькі радкоў, што першыя трапіліся на вочы.

Варажылі таксама і з дапамогаю старога ключа. Для гэтага віду варажбы таксама бралася якая-небудзь вялікая кніга, паміж яе старонак зацiскалася бародка ключа. Потым кнігу шчыльна абвязвалі вяроўкай ці шнурам (каб ключ не выскачыў) і падвешвалі да столі. Потым называлі прозвішчы ўсіх дзяўчат, што знаходзіліся ў пакоі. На чыім прозвішчы кніга паварочвалася, то тая дзяўчына павінна была абавязкова выйсці замуж у гэтым годзе. А вось калі кніга круціцца бесперапынна, значыць вы яе кепска звязалі. Такі ж спосаб час ад часу выкарыстоўваўся у славян, каб знайсці вінаватага ў якой-небудзь ліхой справе.

Вядомая яшчэ і варажба на дрывотні. Яна дазваляе максімальна даведацца пра свайго нарачонага. Трэба падысці да дрывотні спінай і навобмацак выбраць сабе палена. Калі яно роўнае, гладкае, то муж трапіцца з ідэальным характарам. Калі палена тоўстае і цяжкае, то муж будзе заможны, калі сукаватае – у сям'і народзіцца шмат дзяцей, калі крывое – муж будзе касавокі і кульгавы. Можна нават рост абранніка вызначыць: калі палена вялікае, то і абраннік будзе высокі (і, натуральна, наадварот).

Можна таксама пералічваць на лесвіцы стойкі пад парэнчамі і прыгаворваць: "Стары, малады,". І якое слова прыпадзе на апошнюю балясіну, такі будзе і муж. Лесвіцу, зразумела, трэба выбіраць для сябе новую і раней для варажбы не ўжываную. Падобны варыянт можна практыкаваць і з плотам, абдымаючы штыкеціны.

Дзяўчына таксама можа выйсці да пад'езда ці на ганак і папрасіць: "Забрашы, забрашы, сабачачка!" У якім баку пасля гэтага забрэша сабака, там замужам і жыць. Калі брэх блізкі, то замуж дзяўчына выйдзе ў блізкі свет, калі далёкі і ледзь чутны — ехаць давядзецца далёка ад роднага дома.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ, студэнт V курса геафака БДУ.**

■ ПРЫВІТАННЕ ГОДА

# Добры дзень, людзі!

"Малькевіч, дзяўчынка. 1.01.01. Вага 3320, рост 53".

Гэта тэкст звычайнай біркі немаўляці – **Аляксандры Малькевіч** – чалавека, які адкрыў лік новым зямлянам трэцяга тысячагоддзя на Вілейшчыне. Чакалі менавіта дзяўчынку, і яна дала знаць пра сябе ў 9-15 навагодняй раніцы. Сітуацыя, як кажуць урачы **Таццяна Качан** і **Людміла Майніч**, была штатная. Гінеколаг **Алена Міланайць** перадала змену ў наступнае тысячагоддзе **Людміле Рама,ноўскай**, якая і прыняла роды.

**"РГ" №1, 5 студзеня.**

# Нарадзілася 1 студзеня

**ВІЛЕЙКА. Год таму мы пісалі пра першага віляйчаніна тысячагоддзя. Ім стала Аляксандра Малькевіч. Саша заявіла аб сабе ў вілейскім раддоме 1 студзеня 2001 года ў 9.15 раніцы.**

Як жывецца Сашы сёння? Наш карэспандэнт пабываў напярэдадні Новага года ў Сашы ў кватэры па вуліцы імя Льва Талстога. Яна ўжо трывала стаіць на нагах, можа пахваліцца шасцю беленькімі зубамі. А ўсе дамашнія навучыліся за апошні час пільна ставіцца да таго, каб у кватэры былі заўсёды зачыненыя ўсе дзверы, дзверцы, накрыўкі – ад Аляксандры не знойдзецца патаемнай схованкі, дзе яна не змагла б учыніць самую строгую рэвізію. А з якім настроем Саша сустракае свой другі дзень нараджэння? З выдатным. Аб чым гаворыць і здымак.



Фота Міколы ГАЙДУКА.

**Аляксандры Малькевіч 1 студзеня 2002 года споўніцца годзік.**

**Мікола ГАЙДУК.**

рэгіянальная газета

222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.
E-mail: region_news@irex.minsk.by
http://regionnews.promedia.minsk.by

# 2002 год



### СТУДЗЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | **5** | **12** | **19** | **26** | |
| Нд. | **6** | **13** | **20** | **27** | |

### ЛЮТЫ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Сб. | **2** | **9** | **16** | **23** | |
| Нд. | **3** | **10** | **17** | **24** | |

### САКАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | **8** | 15 | 22 | 29 |
| Сб. | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |
| Нд. | **3** | **10** | **17** | **24** | **31** |

### КРАСАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Чц. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб. | **6** | **13** | **20** | **27** | |
| Нд. | **7** | **14** | **21** | **28** | |

### МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт. | | 7 | **14** | 21 | 28 |
| Ср. | **1** | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | **9** | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб. | **4** | **11** | **18** | **25** | |
| Нд. | **5** | **12** | **19** | **26** | |

### ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб. | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** |
| Нд. | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |

### ЛІПЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср. | **3** | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб. | **6** | **13** | **20** | **27** | |
| Нд. | **7** | **14** | **21** | **28** | |

### ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб. | **3** | **10** | **17** | **24** | **31** |
| Нд. | **4** | **11** | **18** | **25** | |

### ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт. | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб. | | **7** | **14** | **21** | **28** | |
| Нд. | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

### КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | **5** | **12** | **19** | **26** | |
| Нд. | **6** | **13** | **20** | **27** | |

### ЛІСТАПАД

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | **7** | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб. | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |
| Нд. | **3** | **10** | **17** | **24** | |

### СНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | **25** | |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб. | | **7** | **14** | **21** | **28** | |
| Нд. | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

## Дні афіцыйных святаў

**1 студзеня** – Новы год
**7 студзеня** – праваслаўныя Каляды
**8 сакавіка** – Дзень жанчын
**1 мая** – Свята працы
**9 мая** – Дзень Перамогі
**14 мая** – Радаўніца
**3 ліпеня** – Дзень вызвалення Беларусі
**7 лістапада** – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі
**25 снежня** – каталіцкія Каляды

# сектар спорту

■ БАСКЕТБОЛ

## Віляйчане не прыехалі

**МАЛАДЗЕЧНА. У канцы мінулага тыдня прайшоў калядны турнір сярод хлопчыкаў 1986-87 гадоў нараджэння.**

Стартавала ў ім чатыры каманды: дзве маладзечанскія, а таксама з Вілейкі і Смаргоні. Але да фінішу дайшлі не ўсе. Віляйчане з-за снегападу не змаглі прыехаць на гульні, і ім залічылі два тэхнічныя паражэнні. Лёс першага месца вырашаўся ў гульні першай маладзечанскай каманды і гасцей з Гродзеншчыны. Перамаглі гаспадары. Трэцяй аказалася каманда "Маладзечна-2".

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Гульня "Маладзечна-1" – "Маладзечна-2". Атакуе Артур Філіпаў з першай маладзечанскай каманды.**

■ ШАХМАТЫ

## Бліц выйграў Качаткоў

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 снежня 12 мацнейшых шахматыстаў горада разыгралі штогадовае першынство па бліцы.**

Кожнаму ўдзельніку давалася па пяць хвілін на партыю. Спаборніцтвы праводзіліся па кругавой сістэме ў два кругі. Кожны шахматыст згуляў па 26 партый. У выніку перамог **Віталь Качаткоў** – 22 ачкі, другім стаў **Андрэй Чаеўскі** – 19 ачкоў. Далей былі **Віктар Акотчык** – 17,5, **Алег Дылеўскі** – 17, **Міхаіл Карабухін** – 16,5 ачкоў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Чэмпіянат у падкіднога дурня

**МАЛАДЗЕЧНА. 5–6 студзеня ў шахматна-шашачным брыдж-клубе "Папараць" пройдзе адкрыты чэмпіянат горада ў падкіднога дурня.**

У першы дзень пройдзе асабістае першынство. Пачатак – а 13-й гадзіне. У другі – парнае (пачатак – а 12-й гадзіне). Стартавыя ўзносы – 2 тысячы рублёў у асабістым першынстве, 3 тысячы – у парным. Арганізатары гарантуюць стопрацэнтны прызавы фонд.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАРАЖЭННЕ ГОДА

## Паражэнне коштам у чэмпіёнства

**07.04 Металург-ЈР – Сімург (Мінск) 3:5 (0:2)**

МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіён навязаў гаспадарам звышхуткасны футбол. З гэтым маладзечанцы справіліся, але рэальных момантаў ля варотаў гасцей у першай палове не было.

Другі тайм маладзечанцы згулялі на выдатна (хаця лік і роўны). Некалькі памылак – нервовых, ад неспрактыкаванасці гуляць у такіх матчах – не дазволілі "Металургу" выйграць.

**"РГ" №15, 13 красавіка**

Гэта было першае і адзінае паражэнне "Металурга-ЈР"

Яно аказалася дарагім – каманда ўпусціла чэмпіёнства і з-за фінансавых цяжкасцяў не заявілася на наступны чэмпіянат. Цяпер "Металург-ЈР" выступае ў чэмпіянаце Мінска. Але гэта ўжо іншая каманда.

■ ПАВЫШЭННЕ ГОДА

## ФК «Смаргонь» у першай лізе

СМАРГОНЬ. Мясцовы футбольны клуб датэрмінова, за 2 туры да фінішу, выйшаў у першую лігу чэмпіянату Беларусі.

Каб аформіць датэрміновае павышэнне ў ранзе, смаргонцам не патрэбна было перамагаць. Дапамагло паражэнне асноўнага канкурэнта.

**"РГ" №44, 2 лістапада**

## Футбол – справа жаночая



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**З 26 па 28 снежня ў спартыўнай зале школы мастацтваў праходзіць гарадскі футбольны турнір сярод школьніц. Удзельнічаюць 10 каманд. На здымку – гульня дзвюх каманд СШ №12. Іна Альховік (злева) не жадае аддаваць мяч Лене Трыпуцька. Сярод гледачоў былі і браты Макоўскія. Плануецца, што яны, а таксама Андрэй Мілеўскі сёння будуць уручаць прызы на ўрачыстым закрыцці турніру.**

# ВІНШАВАНКІ

**Сашу Менцюку** з 18-годдзем

Саша, сардэчна віншуем цябе з паўналеццем!
Пусть этот день,
который ты встречаешь,
Счастливой датой
в жизнь твою войдет.
И все хорошее, о чем мечтаешь,
Пусть сбудется и пусть придет.
Пусть счастья распахнутся двери
И все, что будет прожито, не зря.
Ты знай: в тебя мы очень верим
И очень любим мы тебя.
*Дзядуля, бабуля, дзядзя Юра, тата, мама, брацік Жэня.*

З 18-годдзем **Надзею Закарэўскую**!
Любімая дачушка і ўнучка!
Жадаем здароўя, шчасця, кахання.
*З любоўю мама, тата, бабуля.*

Мілую дачушку і сястрычку **Святлану Кісель** віншуем з 20-годдзем!
Жыві сабе і ўсім на радасць
І не лічы свае гады.
Вясёлай, добрай і шчаслівай
Жадаем быць табе заўжды.
*Мама, тата, брат Гена.*

**Святлане Войтцы**. Віншуем дарагую жоначку і мамачку з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, доўгіх год жыцця. *Муж і дзеці.*

**Святлане Войтцы**. Дарагая дачушка, віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Капуцкія.*

Віншуем **Юлію Сасноўскую** з 18-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у вучобе працы. *Мама, тата, брат.*

Віншую любую матулю **Валянціну Іванаўну Гівойну** і брата **Віталіка** з Новым годам! Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім. *Каця.*

**Любімай, жаданай, адзінай** з Новым годам! Будь белой завистью для женщин и будь желанной для мужчин. Целую, *Я.*

Дарагую **Таісію Васільеўну Сялюн** віншуем з юбілеем! Жадаем здароўя, даўгалецця, радасці ад жыцця і душэўнага спакою. *Родныя з Мядзела.*

Віншуем з 40-годдзем **Валянціну Іосіфаўну Драгун**! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Аднакласніца Раіса Мацкевіч і яе сям'я.*

*Маладзечанскае аддзяленне РГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт»* віншуе свае прадстаўніцтвы у Вілейцы, Валожыне, Мядзеле, Ашмянах, Астраўцы, Смаргоні з надыходзячым новым 2002 годам і нараджэннем Хрыстовым. Шаноўныя калегі, жадаем моцнага здароў'я, сямейнага дабрабыту, поспехаў у праваабарончай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь!

Віншуем з Новым годам сем'і **Калеснікаў** і **Казакевічаў** з в. Княгінін Мядзельскага р-на! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту! *Сям'я Падачкіных з Маладзечна.*

Віншую з Новым годам сям'ю **Кавалёнкаў**! Жадаю шчасця, здароўя, усяго найлепшага. *Сын Андрэй.*

Віншуем з днём нараджэння **Веру Васільеўну Карабінскую**! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, кахання. *Ніна, Марыя.*

Віншуем з днём нараджэння **Галіну Маліноўскую**! Жадаем шчасця, радасці, моцнага здароўя. *Лена, Света, Галя.*

Дарагая сяброўка **Іначка Саўчыц**, віншую з 25-годдзем! Жадаю шчасця, здароўя, кахання. *Таццяна.*

Віншую з днём нараджэння **Аксану Воўчак**! Жадаю сямейнага шчасця, здароўя, здзяйснення усіх мараў. *Таццяна.*

■ ТОСТ

## За паўнату жыцця

Пустыня, спякота. Ідуць дзве ружы: белая і чырвоная.

Наперадзе крыніца, на ім надпіс: "Калі вып"еш вады, згубіш пялёстак". Чырвоная выпіла, згубіла пялёстак, а белая не стала піць.

Ідуць далей, наперадзе яшчэ адна крыніца, зноў чырвоная напілася, а белая – не. Так паўтаралася некалькі разоў.

У канцы дарогі чырвоная ружа памерла, таму што згубіла ўсе свае пялёсткі, а белая – ад смагі.

Дык давайце ж ад жыцця браць усё, таму што фінал ва ўсіх адзін.

■ ІМЯНІНЫ

**28 снежня**
**Праваслаўныя**: Паўла, Сцяпана, Трыфана.
**Каталіцкія**: Антона, Цэзара.
**29 снежня**
**Праваслаўныя**: Феафаніі, Агея.
**Каталіцкія**: Тамаша.
**30 снежня**
**Праваслаўныя**: Ананіі, Антона, Данілы, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Севера, Яўгена.
**2 студзеня**
**Праваслаўныя**: Данілы, Ігната.
**Каталіцкія**: Базыля, Ізыдара, Макара.
**4 студзеня**
**Праваслаўныя**: Настассі, Фядоцці, Яўціха.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Анелі, Рыгора, Тытуса, Яўгена.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 52

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Нельга так здзеквацца

Бацька мой навучыўся ў Кітаі есці ПЯКУЧЫЯ перцы, як звычайную добрую гародніну. Навучыў ён гэтаму і нашага сваяка, таму што я навучанню не паддаўся, а для кампаніі патрэбны ж нехта, хто яшчэ разумее кайф ад ПЯКУЧЫХ перцаў. І пайшлі яны на крыты рынак. Праходзяць міма цёткі, яна прадае гэтыя самыя пякучыя перцы – такія зялёныя, маленькія і з чырвонымі кончыкамі. Бацька пытаецца:

– Даражэнькая, а перцы ў вас пякучыя?

– Так, і самыя лепшыя на ўсім рынку, – гаворыць яна.

Ён бярэ адзін перац і пачынае ў яе на вачах задуменна яго жаваць.

– Не, даражэнькая, кепскія ў вас перцы, не пякучыя.

– Ды што вы, што вы... Вы проста з краю адкусілі.

Суседнія таваркі (з перцамі) зацікавіліся і пачалі жэстамі і рэплікамі прыцягваць увагу кліентаў.

Бацька бярэ надкусаны перац, з'ядае яго гэтак жа задуменна на вачах у чырвонай ад сораму і злосці цёткі. Бярэ другі і гаворыць сваяку:

– На, пакаштуй, што за яно?

Той задуменна каштуе.

Цётка кідаецца абараняць тавар:

– Не можа быць... і да т. п.

– Ды вы самі пакаштуйце.

Ну, яна і пакаштавала. Адразу паўперца. Не ведаю, восьу мяне, напэўна, адразу сэрца б адказала.

## Пажартаваў

Адзін мой знаёмы вырашыў пажартаваць, калі даішнік спыніў яго за перавышэнне хуткасці. Карціна стандартная: работнік ДАІ тармозіць парушальніка, паказвае яму радар (на якім лічба 130), забірае дакументы, скідвае паказчыкі радара і пытаецца, што ж вы, маўляў, грамадзянін, правілы парушаеце. Мой знаёмы (відаць, анекдотаў начытаўся) робіць круглыя вочы і гаворыць, што ехаў не больш за законныя 60 кіламетраў у гадзіну. Даішнік чырванее, гаворыць, маўляў, я ж табе толькі што паказваў радар! Але паколькі дадзеных ужо няма, то на няма і суда няма. Знаёмы, шчаслівы ад сваёй кемлівасці, накіроўваецца да аўтамабіля, але раптам успамінае, што ягоныя дакументы засталіся ў вартавога парадку. Вяртаецца за дакументамі, але тут ужо супрацоўнік ДАІ робіць не менш круглыя вочы і выдае:

– Вы ніякіх дакументаў мне не давалі!

... Штраф знаёмы ўсё ж заплаціў.

**Сямён БОНДАР.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Качка марынаваная запечаная

**1 качка, 2 цыбуліны, 0,5 шклянкі воцату, 5–7 гарошын перцу, лаўровы ліст, часнок, 100 г смятаны, 1 лыжачка мукі, соль.**

Падрыхтаваную тушку вымыць, абкласці кружочкамі цыбулі. Ускіпяціць ваду (1 л) са спецыямі, дадаць воцат, астудзіць. Заліць качку марынадам і памясціць у холад на 2–3 дні. Кожны дзень тушку пераварочваць.

Перад прыгатаваннем тушку абсушыць марляй, нацерці соллю з тоўчаным часнаком. Змазаць маянэзам і запякаць у гарачай духоўцы (240°) да гатоўнасці, час ад часу паліваючы сокам, што ўтвараецца. Калі качка крыху падрумяніцца, абкласці яе цыбуляй з марынаду.

Гатовую качку выкласці на блюда, разрэзаць, абкласці варанай бульбай, паліць соусам. Асобна падаць марынаваныя фрукты ці гародніну.

Для соусу смятану змяшаць з мукой, уліць у сок, які ўтварыўся ў час запякання, пракіпяціць.

## Салата «Зіма на Поўначы»

**Грыбы свежыя (марожаныя), яйкі, звараныя крута, цыбуля, крабавыя палачкі, варанае курынае мяса, соль і перац на смак, маянэз.**

Грыбы зварыць і крыху падсмажыць на алеі. Калі любіце смажаную цыбулю, то падсмажце грыбы разам з цыбуляй, а калі не любіце, то проста парэжце дробна цыбулю і затым дадайце разам з іншымі спецыямі. Чым больш грыбоў, тым больш атрымліваецца салаты. Яйкі дробна парэзаць. Варанае курынае мяса асцярожна відэльцам раздзяліць на тоненькія валокны, тады і смак будзе больш тонкі і далікатны. Крабавыя палачкі парэзаць. У празрыстую пасудзіну скласці грыбы, курыцу, цыбулю, яйкі і крабавыя палачкі. Усё гэта паперчыць, пасаліць і добра перамяшаць. Перамешвайце асцярожна, каб не пашкодзіць валокны курынага мяса і грыбы. На заканчэнне дадаць маянэз – і салата гатовая.

■ ГУМАРЭСКА

# Няма ліха без дабра

Гэта цяпер падавай службовыя машыны. З мігалкамі ці без. А ў далёкія пасляваенныя гады галоўным "баявым скакуном" ахоўнікаў правапарадку быў матацыкл. Вось і несліся на матацыкле з вецярком на добрым падпітку двое ў міліцэйскай" форме. Участковы Таран – за рулём, а начальнік міліцыі Абдымайла – адзаду ў сядле. Імчаліся, падскокваючы на калдобінах, пакуль на крутым павароце не занурыліся ў канаву.

Неўзабаве на гэты ж паварот на сваіх няўстойлівых двaix "выруліў" старшыня сельсавета Блукаць. Вяртаўся з абходу шчодрых знаёмых у Кустовічах. Таму хістаўся ва ўсе бакі, як тая цыбалка пад ветрам. Раптам – і нерухомыя міліцыянты ў канаве, і матацыкл на баку. Хоць і не працверазеў як след, ад убачанага, усё ж даўмеўся, што адбылося дарожнае здарэнне. Першае на тэрыторыі яго сельсавета! Ён зноў у Кустовічы і па школьным тэлефоне выклікае станцыю хуткай дапамогі:

– Халь-лё, халь-лё-ё! Хуткая? Разбіліся ў прух... э, у прах! Валяюцца на матацыкле. Ды на п-п... павароце! Ворганы валяюцца! Як якія? Унутраныя ворганы.

Фельчар Жгуцік, дзяжурны па станцыі, цвяроза ацаніў сітуацыю і заўважыў калегам:

– Туды, мусіць, не нам, пахавальнай камандзе трэба ехаць. Калі ўжо вантробы параскідаліся. Выклікайце следчага, скокнем.

Старшыня сельсавета падняў на ногі ўсю акругу. Выставіў дзяжурнае ачапленне. Нарэшце, прымчалася і "хуткая".

– Во, а матацыкл раве, не заглух, – сказаў Жгуцік, ад чаго натоўп грымнуў дружным рогатам. Ён спусціўся ў канаву, дзе валяліся двое пацярпелых. Тут яму і стала ясна, чаго зарагаталі ў натоўпе. Гэта не матацыкл роў, а здаровага храпака задавалі міліцыянты. Да дзябёлай постаці аднаго з іх ён і прыклаўся паслухаць сэрца. Постаць захрапла яшчэ мацней, падняла рукі ды горача абвіла Жгуціка за шыю.

– Га? Ганулечка мая! Людбая! – закрычала постаць голасам начальніка міліцыі ды з імпэтам зацмокала Жгуціка. Зноў раздаўся рогат натоўпу. Тады Жгуцік вырваўся з бурных абдымкаў і накінуўся на Блукаця:

– Старшыня сельсавета наладзіў камедыю! "Унутраныя ворганы валяюцца", – перакрывіў ён Блукаця.

– Ад камедыі і чую, – пармраваў старшыня. – Адкуль жа, па-твойму, яны? З унутраных ворганаў і ёсць!

Узрушаны натоўп яшчэ доўга выбухаў рогатам і разышоўся толькі тады, калі восеньская цемра густа спавіла зямлю.

І вось ужо ў вазочку вязуць Блукаця ў райцэнтр на бюро райкома. На знаёмым павароце прыгадалася яму, як упраўна спрацаваў пры тым здарэнні. Ды і падаткі ўжо ўсе сабраныя. Толькі рапартуй пра дасягнутыя поспехі ды чакай узнагароды. Таму зусім нечакана, нібы абухом па галаве, бухнулі ўдары абвінавачванняў: і дарожнае здарэнне не прадухіліў, і паважаных супрацоўнікаў унутраных органаў на ўсеагульнае пасмешышча выставіў, здзейсніў вераломнае збіццё кіруючых органаў, дапусціў палітычную слепату. Абвесцілі аргвывад: з работы зняць і накіраваць у калгас брыгадзірам. І як ні даказваў Блукаць, што яны самі абязвечыліся, калі бразнуліся з матацыкла, што ён дзейнічаў па інструкцыі і хацеў як лепш, не дапамагло. Бо адкуль яму было ведаць, што такім рашэннем начальства выканала план па накіраванні камуністаў на сяло для ўмацавання калгасаў, хоць ён і дагэтуль жыў на сяле.

Знялі з работы і Абдымайлу з Таранам, тых нават пераводам у іншы раён. Але іх, як звычайна, з павышэннем за атрыманы маральны ўрон і з мэтай умацавання ўнутраных органаў кіруючымі кадрамі. Таксама з мэтай выканання адпаведнага плана.

Горкая крыўда душыла Блукаця мёртвай хваткай, калі ён вяртаўся дадому. "Няма ліха ў начальства без дабра для яго", – падумалася яму на тым самым павароце.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулым нумары прапанавалася адгадаць, калі і дзе паставілі першую ў свеце оперу.

Амаль усе ўдзельнікі назвалі другую оперу – "Эўрыдыка", якая з'явілася ў 1600 годзе ў італьянскім горадзе Фларэнцыя. А за два гады да гэтага італьянскі кампазітар **Якопа Перы** напісаў оперу "Дафна". Жанр з'явіўся кур'ёзна. У Фларэнцыі ў салоне вядомага аматара музыкі **Джавані Бардзі** ўзнікла ідэя паставіць адну са старажытнагрэчаскіх трагедый. Але музыканты не ведалі, што ў Грэцыі акцёры і спявалі, і чыталі вершы. У Італіі акцёры пелі без перапынкаў. Так узнік новы жанр.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ:** што падарылі англійскія студэнты рускаму вучонаму **Івану Паўлаву**, калі ён атрымаў званне доктара?

Тэлефануйце 69667 ў Маладзечне (апошні тэрмін – 9 студзеня, 13-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Кінатэатр «Радзіма»

**Снежань–студзень**

**Вялікая зала**

28 снежня – 1 студзеня **"Халасцяк"**, ЗША, рамантычная камедыя 15-00, 19-00
**"Эксчэйндж"**, Англія, фантаст. баявік на відэасістэме 17-00, 21-00

31 снежня – 6 студзеня **"Свая тусоўка"**, ЗША, трылер 19-00
**"Гарадскія камікадзе"**, Францыя, баявік 15-00, 17-00, 21-00

**Для дзяцей**

28 – **"Бетховен-3"**
29 – **"Дванаццаць месяцаў"**
30 – **"Марозка"**
31 – **"Канікулы ў Прастаквашыне"** (мультпрагр.)
1 – **"Казка вандравання"** 13-00
2 – **"Навагоднія прыгоды Машы і Віці"** 13-00
3 – **"Русалачка"** 13-00

## Як размеркаваць падарункі

Расказала знаёмая:

– Нам хлопцы на рабоце падарылі сціплыя, але вельмі прыемныя рэчы. І арыгінальна іх паднеслі. Яны купілі мяккія цацкі, паклалі іх у мех, а потым кожную з нас папрасілі выцягнуць сабе цацку. Як было весела, якім смехам суправаджалася кожная выцягнутая цацка (усе цацкі былі абсалютна розныя)! Звяртаем вашую ўвагу, што гэта ўніверсальны спосаб размеркаваць некалькі розных падарункаў паміж некалькімі жанчынамі, каб не выклікаць іх незадавальнення.

**Сямён БОНДАР.**

